Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай

№ 16—(56). Вільня, 28 красавіка 1928 году. Год II.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

Wilno
„Przegląd Wileński"
Uniwersytecka 9

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл. за $1/2$ — 65, за $1/4$—35, за $1/8$— 20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |


## Навука гісторыі.

Да вайны 1914 г., калі беларускія землі лічыліся „Сѣверо-Западнымъ краемъ", які расейская чорная сотня імкнулася зрусыфікаваць і сьцёрці ўсялякія сьляды адасобленасьці краю і насельніцтва, паўнапраўным грамадзянінам на гэтых землях быў той, хто належаў да праваслаўнае веры. Меркай „благонадзёжнасьці" былі адносіны да царквы, сьвяшчэньніка, акуратнае адведваньне штонядзелю набажэнства ў царкве і опінія, якую давала аб кожным праваслаўнае духавенства, якое лічылася апорай расейскае дзяржаўнасьці. Кожны каталік лічыўся „неблаганадзёжным" „мяцежнікам" і г. д. Яшчэ памятныя добра даваенныя часы, калі каталік на абшары беларускіх земляў ня мог дастаць ніякага ўрадовага становішча, да якога дарогу адкрывала зьмена рэлігіі. Такая-ж палітыка панавала на польскіх землях, у „Прывісьлянскім краі", дзе так сама ўсе пасады былі даступны толькі для праваслаўных.

Каталікі, якія, паводле паглядаў царскіх „ступаек", лічыліся палякамі і „мяцежнікамі", мелі адчынены доступ да ўрадавых становішчаў і падчас вельмі высокіх у цэнтральных і ўсходніх губэрнях вялікае Расеі.

„Акраіны"-ж, прызначаліся толькі для прыналежных да „панующае" офіцыяльнае рэлігіі, якая побач з самадзяржаўем лічылася за падставу дзяржаўнага ладу і парадку.

Кіраўнікі тагочаснае Расеі рабілі вялікую памылку, адсоўваючы ў краі часьць грамадзянства ад актыўнае дзяржаўнае палітыкі і ставячы яе ў палажэньне западозраных і ворагаў дзяржавы (паводле пагляду расейскіх нацыяналістых), дзеля таго толькі, што гэтыя грамадзяне не належалі да сынодальнага вераспавяданьня. Гэткая палітыка царскай бюрократыі і Сыноду мела на мэце прыцягнуць да праваслаўя каталікоў, якія за пераход з аднае веры ў другую лічыліся лёяльнымі і прававерными слугамі заданьняў гэтае-ж бюрократыі. Такія пералёты здараліся, і нэофіты карысталіся ўсімі прывілеямі, якія мог даць бюрократычны апарат. Для іх былі адчынены ўсе пасады і ўсе установы. Але побач з невялічкай жменькай такіх перабежчыкаў, таргаваўшых сваім сумленьнем і зьмяняўшых веру за пэнсіі і прывілеі на службе, што раз сільней паглыблялася прорва паміж западозранымі ў нелёяльнасьці, „неблаганадзёжнымі" каталікамі, і прышлым, чужым па духу і псыхалёгіі велікарасейскім чыноўніцкім элемэнтам, які прадстаўляе дзяржаву. Сама дзяржава рабілася ўсё больш чужою, часьць грамадзянства, абараняючы наступ на сваю веру і сумленьне, адмяжоўвалася ад актыўнага палітычнага жыцьця і ня была заінтэрэсавана ў творчай працы расейскае дзяржавы. Мясцовае праваслаўнае грамадзянства, беларускае па нацыянальнасьці, хоць і мела патэнт на лёяльнасьць, так сама спагадала крыўдзе каталіцкіх сваіх братоў і суседзяў, з якімі ад вякоў жыло, і так сама адчувала адасобленасьць сваю ад імпартованых з цэнтру ўрадоўцаў, офіцыяльных прадстаўнікоў Расеі.

З бегам часу, з узростам нацыянальнае сьвядомасьці беларусы ўсё больш адыходзілі ад інтарэсаў расейскае дзяржавы, у якой бесшабашна панавала фальшывая, напускная прыналежнасьць да офіцыяльнае царквы, якая крыўдзіла ўсіх не прыналежных да яе.

Моц дзяржавы апіраецца не на войску, не на сіле, а на моцнай спайцы ўсіх грамядзян з дзяржавай, на псыхолёгічнай сувязі кожнага з дзяржавай, якую ўсе грамадзяне шануюць, любяць і якой з верай і адданьнем служаць. Наколькі гэткая сіла дзяржаўнага арганізму істнуе сапраўды, паказваюць вачавідна мамэнты, калі дзяржаўнаму жыцьцю заграже небясьпека, вайна, рэвалюцыя і т. д. Дзеючыя тады адсярэдзінныя сілы, ня маючы падтрыманьня ў прывязаннасьці грамадзянства да дзяржаўнага ладу, выліваюцца на паверх жыцьця і ламаюць увесь дзяржаўны ўклад.

Прыклад царскае Расеі зьяўляецца яркім доказам таго, што паказная сіла і моц дзяржавы, абапёртая на колькасьці войска і паліцыі, аказваецца... мыльным пузыром, і распадаецца пад дзеяньнем гэтых адсярэдзінных сілаў. Бо сапраўдным зьвязуючым мамэнтам было і ёсьць у дзяржаве моцнае пачуцьцё лучнасьці грамадзянства з жыцьцём дзяржавы і яе ладам, якая аднолькава дбае аб інтарэсы ўсіх слаёў грамадзянства.

Выходзячы з гэткага палажэньня, абаснаванага і спраўджанага падзеямі гісторыі, кіраўнікі польскае дзяржавы павінны заўсёды гэтую нядаўнюю лекцыю гісторыі мець на ўвазе і рабіць адпаведныя вывады.

Беларуская праблема ў Польшчы чакае свайго вырашэньня, і пры вырашэньні яе гэная лекцыя гісторыі не павінна быць забыта польскім народам.

---

## З Сойму.

24 красавіка а гадзіне 5 папалудні адчынілася паседжаньне Сойму, на якім разглядаліся такія справы: Адаслана ў рэгуляміновую камісію прапазыцыя суда аб выдачы паслоў Сахацкага (камун.) і Уладыслава Бачынскага (укр.). Адасланы таксама у камісію дэкрэты Прэзыдэнта Рэспублікі ў ліку 276 якія былі выданы на падставе паўнамоцтва і 44 артыкулу констытуцыі.

Сойм згодна з 21 арт. констытуцыі можа спыніць крымінальнае сьледзтва проці паслоў, распачатае перад атрыманьнем мандату ў Сойм. На паседжаньні Сойму 24 красавіка Сойм пастанавіў стрымаць сьледзтва распачатае проціў некаторых паслоў, а ў тым ліку проціў Ярэміча і Карузы з Беларуска Украінскага Клюбу. Прапазыцыя-ж стрымаць сьледзтва проціў беларускіх паслоў Стагановіча і Грэцкага з клюбу „Змаганьне за інтарэсы сялян і работнікаў“ была адкінута большасьцю 175 галасоў проціў 161. Наступнае паседжаньне Сойму адбудзецца 15-га траўня.

Пасол Ярэміч увайшоў да Адміністрацыйнае Соймавае Камісіі.

Бюджэтная Соймавая Камісія разглядзела бюджэт міністэрства Промыслу і Таргоўлі, а таксама міністэрства Зямельнае Перабудовы.

---

## „Конфідэнты“ і „Голас Працы“.

Нейкі „Вясковы“ ў № 1 „Голасу Працы“ падае вестку, быццам у мястэчка Турэц прыходзіў нейкі агітатар, каторы намаўляў сялян запісацца ў Умястоўскага „крамкі“. Пан „Вяскова“ разгаварыўшыся з Пясачанскімі сялянамі, даведаўся ад іх, што гэта быў конфідэнт з сыскной паліцыі.

Гэткім чынам пан „Вясковы“ хоча пераканаць беларускае грамадзянства, што прыхільнікі думак, кіданых Ф. Умястоўскім на старонках „Бел. Дня“, гэта ўсё „конфідэнты“ сыскной паліцыі. Ня маючы найменшага паняцьця, хто такі гэты панок з Турца, які намаўляў сялян у „крамку“ Ф. Умястоўскага, ня ведаючы нават, ці нагул факт гэткі меў месца, ня маючы таксама намеру ўступаць у палеміку з панам „Вясковым“, мы аднак ня можам абмінуць гэнае пісьмо маўчаньнем. Справа ў тым, што на старонках „Бел. Дня“ мы ня раз зьвярталі ўвагу нашых чытачоў, якую вялікую ролю ў нашым грамадзянскім жыцьці займае правакацыя. Мы там казалі, што асабліва моцнае гняздо зьвілі сабе сыск і правакацыя ў нелегальных, падпольна істнуючых арганізацыях. Яскравае пацьвярджэньне гэтага, мы бачым у працэсе Грамады, якая кішма кішэла правакатарамі і конфідэнтамі, конфідэнтамі аб якіх ня ведалі сяляне, конфідэнтамі, каторых быць можа і дагэтуль сяляне лічаць за відных прадстаўнікоў грамадаўскай арганізацыі, за людзей сваіх.

Чытаючы гэнае пісьмо пана „Вясковага“, які ня хоча назваць прозьвішча гэнага „конфідэнта“ з Пясочнай, што здаецца ні толькі мог, але і павінен быў зрабіць, калі б ён быў прыяцелем беларускага народу, каб гэткім чынам перасьцерагчы беларускае грамадзянства перад шкодным яму чалавекам—паўстае паміма волі пытаньне: Пане „Вясковы“ хто вы такі? Ці не зьяўляецеся вы самі адным з тых правакатараў, аб якіх пісалі мы на старонках „Бел. Дня і ці ня ёсьць пісьмо вашае адказам і актам помсты за нашыя перасьцярогі, якія адчыняюць перад беларускім сялянствам цёмныя старонкі вашае бруднае працы і пазбаўляюць вас лёгкага жыру на горы і цемры народнай. Бо толькі помста чалавека, які траціць грунт пад нагамі, які бачыць, што што разам з трыумфам ідэі „Бел. Дня“ і выхадам беларускага нацыянальнага жыцьця на сьветлы шлях легальнае, адкрытае працы — вы і вам падобныя адзінкі, як сьмяцьцё, будуць зусім выкінуты за борт грамадзкага беларускага жыцьця— толькі гэта магло вас кінуць на шлях гэткай яўнай і грубай правакацыі, якой зьяўляецца пісьмо пана „Вясковага“. Сяляне асьцерагайцеся гэтых прыяцеляў, а „Голасу Працы“ можам толькі павіншаваць такога „супрацоўніка“.

---

**Прачытаўшы газэту, перадай суседу!**

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Патрэба ўгнаеньня грунту.

Вядома, што ўсе расьліны дзеля свайго развою і росту, апрача сьвету, паветра, цяпла і вільгаці, гэтак-жа патрабуюць пэўнае лічбы кармавых складнікоў, што ўносіцца ў зямлю ў пастаці ўгнаеньня, якое служыць дзеля паднясеньня пладароднасьці грунту. Калі ўгнаеньне мае ў сабе ўсе патрэбныя для развою расьлін складнікі,— як: азот, фосфар, калі або паташ, вапну і шмат інш., тады гэткае ўгнаеньне называецца *поўным угнаеньнем*.

Трэба ведаць, што калі ў грунце не хапае азоту, то лісьцьцё расьлін спачатку набірае ясназялёнага колеру, затым як-бы жаўцее або набірае чырвона-бранзовага колеру і рост прыпыняецца. Пры недастатку фосфару — лісьцьця расьлін робяцца фіялетава-зялёныя, затым цёмна-чырванеюць, пакрываюцца плямкамі; пры недастачы паташу—на лісьцьцях і сьцёблах расьлін паказваюцца жоўтыя і брунатныя плямы, якія займаюць цэлы ліст, і само сьцябло слабее і робіцца крохкае (ломкае); дзе недахват у грунце вапны—там найперш больш растуць кіслыя травы, як шчавель і інш., затым лісьцьця расьлін, як-бы корчацца (скручваюцца). Дык вось з поўных угнаеньняў на першым месцы будуць—гной хлеўны, кампост (перагной зямлі і розных адпадкаў); памёт птушак і начное золата (адходы людзей).

Гной хлеўны — гэта мешаніна *жыдкіх*, (мача), і цьвёрдых (кал) адходаў жывёлы ў перамешку з падсьцілкаю. Свойства або вартасьць гною залежыць ад яго складу, г. зн. знаходзіцца ў залежнасьці ад таго, чым і як корміцца жывёла. Калі жывёла заўсёды дастае пожыўнейшы корм, як зярняты, муку, моркву, салодкае сена—канюшыну, тымотку і г. д., тады гной гэткі будзе многа лепшы і багатшы ў кармавыя складнікі дзеля расьлін.

Жывёла, якая корміцца аднэю жытняю саломаю або кіслым балотным сенам, дае гной далёка горшы. Якасьць гною залежыць яшчэ гэтак сама і ад падсьцілкі і ад таго, як ён перахоўваецца да вывазкі і прыорваньня гною на полі.

У сярэднім хлеўны гной мае працэнтны склад з 100 часьцей:

| | Азоту | Фосф. квасу | Калію паташ. | Вады | |
|---|---|---|---|---|---|
| Гной авец | 0.83°/₀ — | 0 23°/₀ — | 0.67°/₀ — | 64.6°/₀ | рэшта °/₀ розных соляў |
| „ коняй | 0 58°/₀ — | 0 28°/₀ — | 0 53°/₀ — | 71.3°/₀ | |
| „ сьвіней | 0,45°/₀ — | 0,19°/₀ — | 0 60°/₀ — | 72.5°/₀ | |
| „ быдла | 0,34°/₀ — | 0,16°/₀ — | 0,40°/₀ — | 77 5°/₀ | |

Найлепшаю падсьцілкаю ў хляве лічыцца торф і мох зялёны (Hypnum), горшаю — салома і самаю кепскаю—гэта будуць сасновыя шыпулькі або лісьцьцё з дрэваў.

Самым багатым па сваім складзе лічыцца авечы гной, які надаецца пераважна дзеля цяжкіх грунтоў, і захоўвае сваю сілу часамі больш, як два гады.

Конскі гной раскладаецца вельмі лёгка і хутка, але дае сілу ўгнаеньня год — рэдка два. Гэныя два гнаі яшчэ называюцца *гарачымі*, бо яны часта саграваюць грунт падчас свайго працэсу перапальваньня, або калі прэюць.

Гной ад быдла ўжо ня гэтак хутка раскладаецца ў грунце, дзейнічае павальней і ён разам з сьвіным гноем адносіцца да гэтак званых *халодных* гнаёў. Гной ад сьвіней заўсёды вадзяністы і раскладаецца надта павольна і пры гэтым не саграває грунту.

Усялякія гнаі на грунтох цяжкіх або гліністых загорваць трэба даволі мелка; на грунтох-жа лёгкіх або пясчаных заорваць трэба глыбей,

## Беларуская Народная Творчасьць.

### (Казкі Паляшукоў).

Пасьля адыходу ад беларускага культурнага жыцьця вышэйшых слаёў грамадзянства—інтэлігэнцыі, якое ў XVI стагодзьдзі падняло культурную беларускую думку да высокага роўня, але ў выніку шмат якіх прычынаў ужо ў канцы XVII ст. і ў наступныя аж да часу Беларускага Адраджэньня парвала ўсялякую сувязь з народам у галіне роднай яго культуры, беларускія народныя масы жывуць у замкнутым ад усялякіх культурных уплываў крузе. Існаваўшая да паловы XIX стагодзьдзя паншчына-прыгон, а навет часы пасьля прыгону якраз спрыялі аслабленьню беларускіх сялянскіх масаў. Бо і пасьля 1863 г. не адразу згінулі тыя фактычныя ўмовы жыцьця, якія падчас прыгону, не пазвалялі пранікаць культурным уплывам у вытвараныя вякамі варункі сялянскага быту ў Беларусі. Асвабадзіўшы, дзеля захаваньня на 50 з малым гадоў свае дынастыі, Аляксандар II ня вывеў сялянства б. свае імпэрыі на шлях поўнапраўнае клясы — сялянства аставалася асобнай клясай, апошняй па ліку ў радзе іншых клясаў, з большымі прывілеямі і меншымі абавязкамі. Школа доўгі час аставалася недаступнай сялянскаму дзіцяці. А калі-ж яно нейкім цудам і дайшло да сярэдняй школы, то тым самым адрэзвала сябе ад роднае вёскі, хаты і бацькоў, бо трапляў такі сялянскі сын у рады другога соцыяльнага разраду, на якія было падзелена ўсё насельніцтва ў б. Расеі. Гэтак было амаль аж да XX стагодзьдзя. Толькі ў пачатку XX ст. быў адменены слаўны прыказ міністра асьветы аб няпрыйманьні ў сярэднія школы „мужыцкіх і кухаркіных сынкоў“.

Гэтая адасобленасьць беларускага сялянства налажыла адбітак на пачаўшаеся Адраджэньне Беларускае, як рух чыста сялянскі, які меў і дагэтуль мае на мэце, побач з матывамі нацыянальнымі, матывы соцыяльныя. А з другога боку адасобленасьць беларускага сялянства, да XX веку жыўшага ў стане амаль што натуральнае гаспадаркі пры недахваце цывілізацыйнае дзейнасьці б. царскага ўраду, захавала выразнасьць і нацыянальную еднасьць свае сялянскае філёзофіі і сьветапагляду, які гаворыць аб духовай культуры народу. Бо-ж ведама, ня гледзячы на страшэнныя ўмовы прыгону, на прыгнечанасьць і няпісьменнасьць, народ, гэтая суцэльная сялянская беларуская маса — усё такі мела свой асаблівы

гэтак 15—20 сант. (3—4 цалі). Пры гэтым трэба памятаць, што гной хлеўны найбольш усяго ўплывае на развой у расьліны ліствы, сьцябла (саломы), самага карэньня і дужа менш на развой зярнят. Калі-ж гной складваецца або вывозіцца ў поле і перахоўваецца на адкрытым паветры, то ён пад уплывам ветру, сонца і дажджу зусім, або ў лепшым выпадку напалавіну, сваю ўдабральную сілу губляе, вось дзеля чаго гной трэба прыорваць, як толькі вывязьлі яго на поле. Самы сок гною, або гнойная жыжка (мача) часта бывае больш варт, як самы гной, бо прынята лічыць, што сто вёдзер разьведзенае жыжы-мачы маюць большую сілу, як добры саракапудовы воз гною. Мача заўсёды павінна зьбірацца ў асабліва зробленые ямы пры хляве, або адстойвацца на утрамбованых глінаю і жалабкаватых падлогах хлява, а не выцякаць на вуліцу, як гэта часта водзіцца. Гнойная жыжа вельмі моцная, лёгка можа выпаліць расьліны, дзеля чаго яна заўсёды мяшаецца: адно вядро жыжы з двума-трома вёдрамі вады, і затым ёю паліваюць маладая расьліны на агародах, ягадныя кусты і надта добра яна надаецца дзеля ўгнаеньня сенажацяў. Па свайму складу жыжа хлеўная зьяўляецца, гэтак сказаць, азоціста-калійным або паташовым угнаеньнем і ў сярэднім мае склад гэтакі ў %/%:

| | |
|---|---|
| Азоту | 0,15% |
| Фосфарн. квасу | 0,01% |
| Гіппурава-кіслага калію | 1,65% |
| Двуугляклага калію | 1,60% |
| Мачавіны | 1,85% |
| Магнэзіі | 0,04% |
| Сернае кіслаты | 0,01% |
| Крэмн. кісл. | 0,02% |
| Арганіч. складн. | 0,70% |
| Розных соляў | 1,87% |
| Вады | 92,10% |
| | 100% |

## Штучныя гнаі.

**Кампост**—гэта зборнае ўгнаеньне: сюды ідуць усе адпадкі гаспадарства—вулічная і падворкавая гразь, сьметнікавыя травы, лісьцьцё з дрэваў, косьці, кроў, а часта і трупы жывёлы — усё гэта складваецца ў вялікую кучу, перамешваецца з зямлёю і пакідаецца гніць у працягу аднаго-двух і больш гадоў. Часамі ня шкодзіць гэную кучу паліваць вадою. Кампост надта прыгодны пад усе расьліны, асабліва для лугоў, агародаў і садоў.

**Птушыны памёт**—адно з самых моцных і лепшых угнаеньняў, толькі яго не заўсёды дужа ёсьць у гаспадарцы, але каб угнаіць ім дзесяціну поля, то трэба ня больш як якіх 50 — 100 пудоў, што заўсёды можа раўняцца 2400 пуд. звычайнага хлеўнага гною. Каб добра разьмеркаваць птушыны гной па полі, перш за ўсё трэба патаўчы яго, перамяшаць з зямлёю і тады расьсеяць па полі, або, размачыўшы ў вадзе, перамяшаць з зямлёю і гэткую гразь разьліць па полі перад воркаю. Наймацнейшы гной галубіны, затым курыны і ад іншых птушак.

**Начное золата**—адходы людзей — адно з багацейшых у азот угнаеньняў. Дзеля абязвоньваньня ў кляэты час-ад-часу трэба ўліваць патроху росчыну жалезнага купарвасу (зялёнага каменя) і падсыпаць торфу. Карыстаць толькі перапрэўшым угнаеньнем, бо сьвежае апрача няпрыемнага паху мае яшчэ ваду тую, што серавадарод яго выпальвае расьліны. Надаецца вельмі на агароды.

Добрым угнаеньнем зьяўляецца таксама **крывяная мука**—высушаны парашок крыві з рэзьні чорнага колеру. Вельмі надаецца на лёгкіх грунтох пад азіміны і яравыя, асабліва пад пладавыя дрэвы, бяруць яе на гэктар 200 — 300 кілёгр. (12—18 п.).

---

сьветапагляд, сваю філёзофію, якую тварыў народ вусна, як усе іншыя народы. Аб гэтай вуснай творчасьці, народнай поэзіі гаворым сяньня. Перш за ўсё малая агаворка: досьледы над народнай беларускай творчасьцю маюць в. багатую літэратуру, выдаванаю Расейскай Акадэміяй Навук, а таксама Кракаўскай Акадэміяй Навук, аднак яшчэ шмат месцаў не абсьледавана і шмат матар'ялаў ня выдана, як напр. досьледы Fedorowskiego.

Народная творчасьць абымае вельмі шырокі круг, як шырокім і многалікім зьяўляюцца ўсе праявы жыцьця ў кожнага чалавека і народу. На падставе грунтоўнага досьледу гэтае творчасьці народнай, калі этнографія дасьць поўны абраз яе, можна будзе пісаць шматтомныя працы. У нашай сяньняшняй гутарцы закранём толькі адну працу з галіны народнае беларускае творчасьці, мо' найбольш характарную, найбольш глыбока выяўляючую сілу і хараство яе і найбольш поэтыцкую па форме — казкі беларусаў-паляшукоў з вядомага выданьня Сержпутоўскага.

Няпісьменныя людзі, якімі ў масе былі беларускія сяляне, ня могуць мець лучнасьці, або, кажучы выразьней, слухаць волатаў людакога генія. Кнігі ім недаступныя. Яны пазбаўлены магчымасьці шукаць у кніжках адказу на пытаньні аб тым, што цікавіць іх. Няпісьменны чалавек выраблае свой сьветапагляд на падставе жыцьцёвага досьледу ды чэрпае адказы на свае пытаньні з заслуханага расказу, казкі. Для няпісьменных людзей вуснае апавяданьне замяняе ўсю літэратуру, якою карыстаюцца пісьменныя людзі; расказы, казкі, пагаворкі і песьні — гэтыя творы народнае вуснае думкі выробляюць увесь сьветапагляд, усю жыцьцёвую мудрасьць, ды ўсю этыку няпісьменнае сялянскае масы. Беларускі селянін дзеля гэтага так любіць слухаць расказчыкаў і сам любіць казаць казкі, бо гэта крыніца, адкуль ён чэрпаў да нядаўных часоў усе адказы на цікавячыя яго пытаньні. Дзе-б ён ні знаходзіўся, калі толькі пазваляе яму час, ён ахвотна баець сам, або слухае другога.

Добрыя расказчыкі, якія ўносяць у расказ свой індывідуальны элемэнт і здарэньне, ці пагаворку ўбіраюць у выканчаную мастацкую форму — гэта тое самае, што пісьменнікі і поэты ў пісьменнай творчасьці.

Казкі паляшукоў запісаны ў XX стагодзьдзі ў ваколіцах Слуцкага і Мызырскага паветаў. Іх нямнога — толькі 80 казак. Якое-ж, аднак, багацьце іх зьместу і мастацтва формы.

Казкі — гэтая вусная літэратура — перада-

## Няпоўныя штучныя або мінэральныя ўгнаеньні.

### А. Азоцістыя.

Сюды адносяцца: **Чылійская або натраная содавая салетра**, якая прадстаўляе сабою азотнакіслы натр, (мае хімычную формулу $\mathrm{Na\ No_3}$) і трымае ў сабе 15% — 16% азоту ў постаці надта лёгка спажыванай расьлінамі. Чылійская салетра дабываецца ў Паўднёвай Амэрыцы, ў бяздожджых правінцыях Чылі і Пэру, дзе яна залягае пад зямлянымі пластамі часта таўшчынёю ад 1/4 да 4 мэтраў, і падобна да неабробленае кухоннае солі—белага альбо рожаватага колеру і надта лёгка ўцягвае ў сябе ваду.

На ўсе расьліны чылійская салетра дзейнічае вельмі хутка і энэргічна, змушаючы збожжа надта кусьціцца. Заўважана, што адзін пуд гэнае салетры заўсёды дае прырост зярнят: жыта—3-4 пуды, пшаніцы—5 п., ячменю—4-5 п., аўса—4-5 п., бульбы да 35 пуд. і буракоў—60 пуд. Чылійская салетра добра памагае на ўсялякіх грунтох, асабліва на лёгкіх песчаных, за што менш надаецца на сырыя і мокрыя грунты, дзе яна лёгка ўносіцца ў падгрунт. Дзеля таго, што салетра праяўляе сваё дзеяньне зараз-жа, ўносіць яе ў грунт трэба вясною па ўсходах, расьсяваючы з прымешкаю зямлі ў два-тры разы, ад чаго ўжо праз тыдзень-два зразу паляпшаюцца пасевы збожжа, асабліва надта добра папраўляюцца кепска вышаўшыя з зямлі пасевы.

За граніцаю даюць на гэктар якіх 15 — 18 пуд., а ў нас даволі 3—6 пуд., бо яна даволі дарагое ўгнаеньне—мяшок 6 пуд. (100 кгр.) каштуе 55—60 зл. Ужываньне салетры вельмі заслужвае на ўвагу, калі прыходзіцца сеяць жыта па жыце, наагул збожжа па збожжы.

**Сернакіслы аміяк**—гэта вельмі добрае ўгнаеньне; ён атрымліваецца ад сухое перагонкі каменнага вугля для атрымліваньня з яго коксу і сьвяцільнага газу. Дык вось, да газавай вады, якая мае аміяк (нашатыр) прыліваюць сернае кіслаты, якая злучаецца з аміякам і дае сернакіслы аміяк. Пры выпарваньні гэнае вады творыць масу крышталяў брудна-шэрага, часта зеленаватага і нават блакітнаватага колеру, якая тады называецца сернакіслым амоніем і ў сярэднім мае ў сабе 20%—21% азоту.

Сернакіслага амонію бяруць дзеля ўгнаеньня гэтулькі-ж, як і чылійскай салетры з тою розьніцаю, што яго можна ўносіць у грунт задоўга да пасеву, бо дзеяньне яго павольнае, і ён ня гэтак лёгка ўносіцца з вадою ў падгрунт. Сернакіслы амоні ня можна *тасаваць на грунты зараз-жа па вапнаваньні грунту*, а таксама даваць разам з фосфарнакіслымі ўгнаеньнямі — *з супэрфасфатам і тамашлякам. На махавыя балоты або кіслыя тарфяністыя грунты* сернакіслы амоні гэтак-жа не надаецца. За 100 кілёгр. плаціцца 43 злот.

**Нарвэская або вапнавая салетра**—гэта ўгнаеньне, якое дабываецца пры помачы электрычнасьці з азоту паветра, мае хімічную формулу $[(\mathrm{Ca\ No_3})_2]$. і трымае ад 14 да 23%, а ў сярэднім 13% азоту.

Найперш яна пачала выраблiяцца ў Нарвэгіі па спосабу Біркэлянда і Эйдэ, якія ў 1905 г. першы раз датарноўваючы высокую тэмпэратуру электрычнасьці (вольтава дуга), азот і кіслярод паветра злучалі ў азоцістую кіслату, а апошняя павольна пераходзіць у азотную кіслату, даступную для расьлін. Злучаная з вапнаю, азотная кіслата і дае нарвэскую або вапнавую салетру, якая мае гэтакую-ж сілу і дзейнічаньне, як і чылійская салетра, толькі трэба памятаць, што яна патрабуе даволі глыбокага прыкрыцьця-прыарыўкі, бо інакшай ёю можна папсаваць расьліны; ўносяць вапнавую салетру за якіх 8-14 дзён да пасеву.

Вапнавая або нарвэская салетра яшчэ больш гіграскапічна—надта лёгка ўцягвае ў сябе ваду, дзеля чаго яе трэба пераховўваць у дзеравяных або бляшаных скрынках і ў сухім месцы. Расьсяваюць яе ў гэткай самай меры, як і чылійскую.

---

валіся з пакаленьня ў пакаленьне. Відзім у іх вельмі даўныя матывы, якія ў іншых народаў, так сама, як і ў беларусаў, далі шмат твораў у X, XI стагодзьдзях, мо' і ранейшага паходжаньня. Як напрыклад, казка аб сьвятых Ільлі і Пётры, калі сьвятыя хадзілі па зямлі.

Маючы такое даўняе паходжаньне, гэтыя казкі набіралі наслаеньне з кожнага стагодзьдзя. Кожнае пакаленьне расказчыкаў уносіла ў старую фабулу рысы свайго часу і, такім чынам, шмат казак выяўляе гісторыяграфію сялянскае беларускае думкі. Мала таго, народ мае свой ідэал справядлівасьці грамадзкага ладу — і вось расказчыкі выбягаюць думкай уперад і баюць аб тым добрым ладзе, які мае прыйсьці, калі людзі, ізноў, як было спрадвеку, будуць „жыць пажываць, ніякага ліха ня знаць", „калі пазнаюць праўду, паднімуцца ў згодзе", „бы адзін чалавек прагоняць паганую нечысьць і зажывуць на зямлі, бы ў раі".

Зьмест казак самы разнародны. Асаблівасьцяй іх зьяўляецца аднак тое, што гэта казкі твораныя пажылымі людзьмі і дзеля гэтага даюць адказ на нейкае пытаньне, з якіх складаецца сьветапагляд беларускага селяніна. Кожная з іх мае нейкую філёзофічную думку. Гэтая сынтэза народнага сьветапагляду зьяўляецца найбольш характарнай рысай разгляданых намі казак. Кожная казка — гэта тэма, над якой думае народ. Апранутая яна ў кароткую форму пагаворкі, — а расказчык тчэ найчасьцей мастацкі ўзор каля гэтае пагаворкі, высьвятляючы сапраўднасьць яе, або паходжаньне.

Шмат у казках матываў з даўнага, паганскага яшчэ часу, калі кругом чалавека жылі нячысьцікі, ведзьмары і другія злыя духі. Аднак, усе гэтыя цёмныя сілы прасеяны як-бы цераз хрысьціянскі сьветапагляд. Расказчык найчасьцей кажа, так было калісьці, сьмяецца з гэтых цёмных сілаў, выяўляе іх немач, а сілу іх аб'яснае цемнатою і верай у іх людзей.

„От быў ведзьмар, што ўсё ён знаў, ніхто ня сьмеў яму сказаць наперакор, так яго баяліся. Толькі адзін быў чалавек у вёсцы, ён многа па сьвеце хадзіў і быў аж у Кралеўцу. От гэты чалавек не баўся ведзьмара і ўсё казаў, што ён толькі чмуціць. Але яму ня верылі. Каб паказаць суседзям немач ведзьмара, гэты бывалы чалавек ухапіў яго на абмане ды пабіў моцна. Біў-біў, пакуль здаволіўся дый пытае: — „А што, ня будзеш больш добрых людзей чмуціць?". І больш ня чмуціў. Падзівіліся людзі, — кажа казка, — думалі перш, што ведзьмар таго чалавека з сьвету зжыве, але бачаць, што той чалавек жыве сабе і ня лыс. Годзі ведзьмару з тае пары чмуціць. Дык вот якія ёсьць ведзьмары" кажа расказчык

У апошнія часы ў Польшчы, на дзяржаўнай фабрыцы ў Хоржове на Шлёнзку пачалі вырабляць салетру содавую пад назваю „Нітрофас“— гэта мешаніна салетры амонавай з фосфарыстымі, і нітрофас мае ў сабе да 17% азоту і 17% фосфару. Каштуе яна на месцы 46 зл. за 100 кілёгр. і ў сярэднім мае $15\frac{1}{2}$% азоту; па свайму дзейству і свойству ня ўступае чылійскай або нарвэскай салетрам. Высяваць трэба за дзён колькі перад пасевам збожжа і добра перамяшаць бараною з зямлёю. Надаецца і на грунты кіслыя; вясною можна пасыпаць азіміны не прыкрываючы ў сухую пагоду.

Ішчэ ў апошнія гады ў Нямеччыне і ў Польшчы вельмі распаўсюджваецца азотавае ўгнаеньне—*азатняк вапновы*— гэта цёмна-шэры або і зусім чорны парашок, падобны на тамасыну, які мае ў сабе ад 15,5% да 22% азоту, а ў сярэднім 20%. Вырабляецца азатняк з гэтак званага карбіду, які ўжываецца ў шахтах вуглякопамі для асьвятленьня, а таксама дабываецца ён з азоту паветра.

Практыка даказвае, што азатняк вапновы *не надаецца на пясчаныя грунты*, якія мала маюць вапны і дзе зусім няма перагною, а гэтак сама яго *ня трэба прымяняць на кіслых і заплыўных тарфяністых грунтох*. Надаецца ён лепш на зьвязлыя гліны і на грунты пясчана-глiністыя. Каб ён не зашкодзіў расьлінам, высяваць азатнят трэба найменш за якіх 10—14 дзён да пасеву збожжа. Даецца яго на гэктар 150—200 кілёграмаў, і каштуе ён за 100 кілёгр. 22% ад 42— 48 злот. Лепшыя рэзультаты бывалі, калі давалі азатняк *над авёс і бульбу*.

Азатняк добра зьніштажае сьметніковыя травы; пры расьсяваньні трэба памятаць, што азатняку ніколі ня можна мяшаць з супэрфасфатам і сернакіслым амоніем, затое можна мяшаць падчас севу з тамасынаю, паташоваю сольлю і кайнітам.

Азатняк, як і ўсе азотныя ўгнаеньні салетры—даволі ядавіты, дзеля чаго каля іх трэба асьцярожна абходзіцца з жывёлаю і заўважаць, каб сеючы не папала на раны ў руках, або ў вочы, што можа часамі дужа зашкодзіць.

*Я. Х.*

## Як і чым корміцца расьліна.

*(Далейшы працяг.)*

Мы ўжо ўспомнілі ў I раз, што некаторыя расьліны патрапяць жывіцца азотам, якога шмат знаходзіцца ў паветры.

Расьлінамі такімі зьяўляюцца так званыя, матыльковыя, як лубін, сарадэля, віка, гарох і ўсе гатункі канюшыны. Вучоныя пераканаліся аб гэтым так: Засеялі ў вазоне з выпаленым пяском лубін. Да гэтага пяску дасыпалі ўсіх расьлінных пажываў, між іншым і азоту, усе гэтыя пажывы пад зьмяшаньнем іх з пяском зважылі. Лубін вырас добра і даў добрае насеньне.

Пасьля паглядзелі, колькі ў лубіне знаходзіцца азоту. Усе былі перакана765ы, што ў гэтым лубіне знаходзіцца столькі азоту, колькі яго было дадзена ў вазон. Тымчасам аказалася, што азоту ў лубіне было шмат больш, а затым мусіў лубін браць азотны корм ня толькі з зямлі. Каб пераканацца аб тым, скуль лубін чэрпае азот, зрабілі гэткі досьлед: да выпаленага пяску ў вазоне дадалі ўсіх іншых расьлінных кормаў, азоту зусім не далі. Лубін вырас добра і даў добрае зярня. Па дасьледжаньні гэтага лубіну аказалася, што ў ём ня менш было азоту, ніж у лубіне з папярэдняга вазону. Такім спосабам пераканаліся, што лубін патрэбны для свайго жыцьця азот чэрпае з паветра. Такія самыя пробы робленыя з іншымі расьлінамі паказалі, што ўсе матыльковыя расьліны чэрпаюць азот з паветра. Дзякуючы гэтаму, гэтыя расьліны ў меншай меры выцягваюць з зямлі спажыўныя сокі ад іншых сокаў, і дзеля гэтага азіміна ці ярына добра расьце па гэтых расьлінах.

---

Казкі абрысоўваюць пагляд селяніна на акружаючыя яго — прыроду, жывёлу і нябесныя сілы.

Жывое ўсё вельмі блізкае і зразумелае селяніну. Ён творыць легэнду аб паходжаньні мядзьведзя, бусла, дае адказ дзеля чаго існуюць на сьвеце такія навет прыкрыя ці страшныя творы, як гады, павукі і блохі. Усё маець у прадстаўленьні яго сваю мэтнасьць, бо не без патрэбы яно створана Найвышэйшым Тварцом.

Бусел — шанаваная ў Беларусі птушка, якая жыве каля людзей. Казка дае аб‘ясьненьне, як разьвяліся буслы, якіх яна выводзіць проста ад чалавека.

„Упярод ня было ні гадзюк, ні жаб, ніякага плюгаўства. Вот Бог падазваў к сабе чалавека, даў яму завязаны гаршчок і казаў укінуць яго ў мора не разьвязаўшы. Даведалася аб гэтым жонка і стала прасіць мужа паказаць, што ў гаршчку. „Бог не вялеў разьбіваць“, — адказвае муж і ня слухае кабеты. Дык тая пашла на хітрыкі. Угаварыла мужа астацца на-нач у хаце, напаіла і накарміла яго, як гасьця і, калі ён спаў, адвязала гаршчок. Толькі яна яго адкрыла, а адтуль і выскачылі ўсялякія гадзюкі, яшчаркі і жабы. Спалохалася баба, нарабіла крыку. Прахапіўся чалавек ды так босы, у белай сарочцы, толькі накінуўшы на плечы чорную сьвіту, давай зьбіраць тую нечысьць. Зьбіраў - зьбіраў—нічога ня зробіць. Але ось прыходзіць Бог, і кажа тым людзям: „Вы выпусьцілі гадаў, вы і зьбірайце іх“. I абярнуў Бог тых людзей ў буслоў. Ходзяць з тае пары па балоце босыя, з чырвонымі нагамі, у белых сарочках і чорных сьвітах буслы дый зьбіраюць усякую нечысь. Яны і стараюцца жыць бліжэй к сваім братом-людзям, — знаюць, што іх, як братоў людзі ня будуць біць.—От адкуль узяліся буслы“,—канчае казка

Мядзьведзь — гэта таксама абернуты ў зьвяра чалавек.

„Даўно тое было, — кажа казка. — Людзей было мала, жылі сям-там па лесе: лавілі зьвера, птушак, у азёрах і рэках — рыбу. Выбіралі з дупляў мёд. Пчол тады было багацько. Людзі шукалі пчол у дуплях і хто першы знайшоў, таго і былі тыя пчолы. Але быў адзін гультаяваты мужык. Яму не хацелася шукаць пчол, дык ён выдзіраў чужыя. Толькі цяжка яму было ўлазіць на дзерава. I вось пашоў ён да ведзьмара, што ўсё мог зрабіць, каб той удзеяў, што-б лягчэй было лазіць на дзерава. Доўга ён ішоў, але вось прышоў блізка ведзьмара і ўбачыў лыкам абвязанае дуплё з мёдам. Выбраў ён мёд з аднаго і другога дупля, а гэта былі дуплі ведзьмаровы. Надышоў той, убачыў гэта і кажа: „Ну, з гэтае пары ты і твае дзеці будзеце толькі пчолы драць. I абярнуў калдун таго чалавека ў мядзьведзя“.

Казка аб мудрым Салямоне, даказаўшы, што ў патрэбе прыдаліся і павук, і гадзюкі, і блыха, гэтак канчаецца:

„З тае пары дагадаўся Салямон, што ўсё на сьвеце патрэбна, бо сьвет ня можа стаяць, калі-б ня было і таго, што нам здаецца ліхім. Праўду кажуць, што бяз ліха, няма і дабра“.

*(Працяг будзе).*

З таго, што на яловай зямлі добра растуць такія расьліны, як лубін і сарадэля, кожны земляроб павінен скарыстаць.

Дзякуючы заорваньню гэтых расьлінаў зарадлівы гаспадар можа лёгка ўзбагаціць сваю ральлю вялікай колькасьцяй азоту і запэўніць сабе дасканальны збор збожжа.

Хто мае замала зямлі і ня можа траціць аднаразовага збору на гадоўлю лубіну або сарадэлі на заараньне, той можа гэтыя расьліны сеяць у збожжа. Па сборцы жыта лубін і сарадэля пачынае расьці і мае перад зімой стручкі, а загораныя на познай восені або на наступную вясну, запэўняюць дасканальны збор ярыны, або бульбы. Сарадэлю трэба сеяць у жыта на дзесяціну 60—80 фунтаў, найраней зараз з вясны, лубін трэба сеяць пазней, менш-больш 1—$1^1/_2$ корца (1 корац=4 чацьвярыком і 7,028 гар.) на дзесяціну.

Сарадэлю сеюць такім спосабам некалькі гадоў і а ніводнага разу не прапала; лубін часта прападае калі трапіць на пасуху; найлепш сеяць яго па зборцы жыта на загараным іржышчы. У некаторых ваколіцах загорваюць грэчку і гарчыцу. Аднак, гэтыя расьліны азоту не даюць.

Авёс па гаросе і лубіне расьце буйны і вялікі. Апрача гною і матыльковых расьлінаў, можа даць азот чылійская салетра. Чылійская салетра падобная да солі, прывозяць яе з паўднёвай Амэрыкі. Чылійская салетра распушчаецца лёгка ў вадзе і ёсьць дасканальнай спажывай для расьлінаў.

Аднак гэта ўдабрэньне дарагое і ў звычайных гаспадарках таньней абойдзецца ўзбагачваць ральлю ў азот, заворваючы лубін або іншыя матыльковыя расьліны. Толькі там, дзе гадуюць расьліны, якія даюць вельмі вялікія даходы, як капуста, цукровыя буракі, табака, хмель, можа аплаціцца ўжываньне чылійскай салетры.

Расьсяваецца чылійская салетра на версе растучых збожжаў, не адразу ўся, але пару разоў у двутыднёвых адступах. На акопныя расьліны даецца засеў пад кожны куст асобна.

## Фосфар.

Да неабходных спажыўных дзейнікаў для расьлін належыць фосфар. Злучаны з вадародам, фосфар. творыць сувязь, званую фосфарным квасам і гэты фосфарны квас, распушчаны ў вадзе ёсьць добрай расьліннай спажываю. Найбольш фосфарнага квасу спажываюць каласавыя расьліны, як: жыта, пшаніца, ячмень, авёс, і асаджваюць часьць фосфарнага квасу на зярнятах, галоўна пад луской, альбо ў вотрубах. У быдлячым гнаі, жывёлы, кормленай саломай, знаходзіцца мала фосфарнага квасу. Таму на полі, дзе раскідаецца такі гной, ніколі ня можна спадзявацца вялікага збору, бо лёгка можа не хапіць фосфарнай спажывы для расьлін. Вельмі многа фосфарнага квасу знаходзіцца ў чалавечых адходах. У краёх, дзе земляробы больш асьвечаны, болей дбалыя як у нас, адходы чалавечыя не марнуюцца за сьценамі і пад платамі, як гэта ў нашых вёсках бывае.

Ніхто там ня стыдаецца зьбіраць чалавечага гною; кожны гаспадар мае на сваім падворку патрэбнік, пасыпае ў ім штодня чалавечыя адходы сухім тарфяным парашком або сухой зямлёй, дзякуючы чаму кал траціць свой няпрыемны пах.

Наагул у нашых землях міма ўдабрэньня іх гноем, мала ёсьць фосфарнага квасу; расьліны, гадаваныя на нашых гаспадарках, шмат гэтага корму патрабуюць, што раз барджэй гэты корм з зямлі выцягваюць, так што ў шмат якіх месцах адчуваецца недахоп гэтай расьліннай спажывы. Каб гэтаму недахопу фосфарнага квасу зарадзіць, пачалі вырабляць такія штучныя ўдабрэньні, якія маюць у сабе фосфарны квас.

Удабрэньні гэтыя называюцца: тамасоўкай і супэрфосфатамі. Тамасоўкай завецца ад імя ангельца Томаса, які вынайшоў парашок, які атрымаў, выпальчаючы жужлі руды, і назваў тамасоўкай.

Жужлі, з каторых робяць тамасоўку, творацца пры ператапленьні жалезнай руды на жалеза або сталь. Жужлі гэныя мелюць у млынох з жалезнымі вальцамі на чорна-шэры парашок. У 100 фунтах тамасоўкі бывае 20 фунтаў фосфарнага квасу. Фосфарны квас, знаходзіцца ў тамасоўцы і ня вельмі лёгка распушчаецца ў вадзе, таму і не адразу расьліны яго прыймаюць.

З гэтага повароду тамасоўка не даецца пад апошнюю сеўную скібу, але загорваецца для вясьняных засеваў увосень, для азімін пры першай для іх прыгатоўцы, каб часьць фосфарнага квасу мела даволі часу распусьціца ў вадзе і магла служыць за корм для пасеяных расьлінаў. Тамасоўкі трэба сеяць на дзесяціну 4 — 6 цэнтнараў. Супэрфасфат—гэта шэры дробны парашок, выраблены з паленых і меленых касьцей з сернага квасу (мітрыволю). 100 фунтаў супэрфасфату мае 15 фунтаў фосфарнага квасу, каторы вельмі лёгка распушчаецца і, дзякуючы гэтаму, расьліны яго скора могуць спажыць. Супэрфасфату ўжываецца 2—3 цэнтнары на дзесяціну, а расьсяваецца яго перад апошня, т. ё. сеўнай скібай, у найгоршым выпадку, забараноўваецца яго перад самым засевам.

Збожжы засеяныя на багатых грунтох у фосфарны квас, ад'значаюцца вялікім узростам, грубай саломай, цяжкім і буйным зярнём.

Тамасоўка дае добры рэзультат, калі расьсеяць яе на палявых і нізінных сенажацях, каб толькі ня былі мокрыя.

---

## Аб замаразках.

У канцы вясны прыходзіцца выпаўняць вельмі важную працу ў пладовым садзе, каб асьцерагчы цьвет дрэваў ад замаразкаў; вельмі важна, дзеля зьберажэньня ўраджаю, парупіцца аб тым, каб зрабіць дрэвам пэўную ахову ў час іх цьвіценьня ад уплыву нізкай тэмпэратуры.

Начныя замаразкі бываюць зраньня перад усходам сонца ў ясную (бязвоблачную), сухую і ціхую пагоду. Бываюць яны, як вясной, гэтак і раньняй восеньню, і ў гэткіх выпадках робяць часамі вялікія шкоды для расьліны. Асаблівых спосабаў у барацьбе з замаразкамі пакуль што няма, але шматгадовая практыка больш-менш намеціла некаторыя спосабы, карыстаючыся якімі можна асьцерагчы расьліну ад шкоднага ўплыву замаразкаў; магчыма крыху затрымаць час цьвіценьня дрэваў, калі могуць прамінуць замаразкі, дзеля чаго з восені абматваюць сьцёблы саломай, зімой утоптаваюць сьнег каля дрэваў і раньняй вясной робяць бяленьне вапнай сьцёблаў.

Апрача гэтага, ў барацьбе з замаразкамі можна рабіць і гэтак. Справа ў тым, што замаразкі бываюць у ясную (бязвоблачную) пагоду, абумоўліваюцца губляньнем цяплыні зямной паверхні, ад чаго паніжаецца тэмпэратура ніжэй за 0°, і наступае мароз; і вось, каб хоць крыху ўтрымаць гэту страту цяплыні, робяць над садам штучныя воблакі з дыму, палячы розныя рэчы, якія паволі гараць і даюць шмат дыму. Гэткімі рэчамі могуць быць: старое лісьцьцё, гнілая дравясіна, мох, торф, лясны перагной, гной і інш.

Разлажыўшы кучу гэткага гнільля на садзе, глядзяць уночы за ходам тэмпэратуры, і, пры наступленьні замаразкаў, запальваюць яе з таго боку, адкуль вее вецер, каб дым цягнула ў сад. Кучы запальваюць гадзіны за дзьве да ўсходу сонца, і іх гарэньне карысна падтрымліваць столькі сама і пасьля ўсходу. Гэткім бараненьнем часамі магчыма ратаваць увесь ураджай саду ад зьяданьня замаразкамі цьвету.

Але трэба зьвярнуць увагу, што гэта барацьба супраць замаразкаў зьяўляецца добрай толькі на невялікую плошчу саду, а на вялікі простор яе цяжка выпаўніць; вось дзеля гэтага культура познацьвітучых сартоў і пародаў, а таксама і больш выносьлівых да паніжэньня тэмпэратуры (з замаразкам) будзе адным з пэўнейшых спосабаў у барацьбе з шкоднымі замаразкамі.

Вельмі карысна яшчэ паруп іцца аб тым, каб у дрэваў хутчэй адбывалася апыленьне цьвету, дзеля таго, што гэтым скарочваецца пэрыяд часу самага цьвіценьня, якое зьяўляецца найбольш небясьпечным. У апыленьні (г. зн. у перанясеньні пыльцы з пыльнікаў-пруткоў на рыльца песьціка) бяруць удзел розныя кузулькі, а галоўным чынам, пчолы і вось таму вельмі важна, калі блізка каля саду знаходзіцца пасека, ці ў самым садзе некалькі вульлёў. Пры дапамозе пчолаў можа хутка скончыцца апыленьне ў цьвеце і наступіць апладненьне, пасьля чаго лапкі цьвету засыхаюць, асыпаюцца, а завязь разьвіваецца ў плод. *С.*

## Аб патрэбе сельска-гаспадарчых арганізацыяў.

Заходняя Беларусь зьяўляецца чыстым сельска-гаспадарчым краем. Фабрык і промыслу ў нас няма і доўга яго ня будзе. Вялікія прасторы нашых земляў заўсёды будуць каласіцца збожжам і цьвісьці краскамі лугоў. З гэтага боку нашыя землі падобныя ўва многім да Даніі, якая зьяўляецца сельска-гаспадарчым краем, з сельскае гаспадаркі чарпае сваё багацьце і на сельскай гаспадарцы збудавала сваю вялікую гаспадарскую культуру. З аднаго толькі непадобныя нашыя землі да цьвітучай Даніі. Наколькі там сельская гаспадарка стаіць высока, дае хлеб і багацьце дацкаму працавітаму сялянству, на толькі культура гаспадараваньня на зямлі стаіць у нас нізка.

Але не заўсёды было так добра ў Даніі. Гадоў 50 таму Данія была ў такім самым палажэньні, як і мы. Сяляне ня мелі хлеба і эміґравалі за граніцу, шукаючы там заробку і хлеба. Цяпер наадварот: усе едуць у Данію, хто хоча павучыцца, як трэба працаваць на зямлі. Вучацца ня ў школах, а ў звычайных дробных гаспадароў-сялян, якія паказваюць вучоным аграномам, што можа даць зямля, калі каля яе ўмела і пільна хадзіць і разумна абрабляць.

Дацкія сяляне зьяўляюцца цяпер найлепшымі гаспадарамі і найбагацейшымі сялянамі, зусім не таму, што там найлепшая зямля і яе ў кожнага многа. Не, зямля ў Даніі ня толькі лепшая, чымся ў нас, на Беларусі, а сярэдні дацкі селянін мае яе часта менш, чымся селянін беларускі. Дык чаму-ж аднак кожны дацкі гаспадар ува многа разоў багацейшы за нашых сялян? Проста дзеля таго, што ўжо даўно дацкія сяляне ўсе бяз выняткаў ужываюць да ўправы ральлі штучных гнаёў, сеюць кармавыя буракі, травы і ўсе гадуюць добрыя малочныя каровы, з якіх маюць вялізарныя даходы.

Аддаўна дацкае малако і масла расцэньваецца найдаражэй на ўсім сьвеце. Аддаўна ўжо сяляне ў Даніі ўвозяць да сябе жыта, пшаніцу, купляюць хлеб, але затое прадаюць вельмі многа масла і жывёлы — быдла і сьвіней, бо гадоўля сьвіней і малачарства аплачваецца лепш, чымся ўправа жыта, а нават пшаніцы. Да такога стану дайшлі сяляне ў Даніі цераз навуку, чытаньне гаспадарчых кніжак і свае сельска-гаспадарчыя арганізацыі. Там усе сяляне належаць да гадаўляных, спажывецкіх, малачарскіх і другіх сельска-гаспадарчых арганізацыяў, дзякуючы якім паднялі свае гаспадаркі на такую высату і завялі такую культуру ў абработцы зямлі, якой няма нідзе ў сьвеце.

У Даніі абавязвае закон, паводле якога толькі той сын можа атрымаць зямлю па бацьку, які ўмее гаспадарыць, г. зн. які вучыўся і скончыў двугадовую сельска-гаспадарчую школу і адбыў на чужой гаспадарцы практыку, падчас якой сам прарабіць усю работу на полі, ў малачарні, ў хляве і стайні, каля быдла, сьвіней і коняй, з якой можа спаткацца на сваёй гаспадарцы.

У Даніі істнуе звычай, паводле якога ніводная сялянская гаспадарская дачка ня выйдзе замуж за такога сялянскага хлопца, які ня скончыў сельска-гаспадарчае школы.

Бо ў Даніі даўно ўжо зразумелі сяляне, што сельска-гаспадарчая навука дае ў рукі гаспадара вялізарную веду, пры помачы якое ён можа павялічыць даходы з зямлі і атрымаць усё, што толькі магчыма. А таксама ведаюць яны і тое, што навука штогоду адкрывае ўсё новыя і новыя спосабы ўправы ральлі, пры застасаваньні якіх зямля дае найбольшую карысьць, большую чымся фабрыка і завод. Бо зямля гэта таксама фабрыка, толькі трэба ўмець, як абходзіцца з ёю. Ня кожны фабрыкант мае даходы і калі толькі ён ня дбае аб новых машынах, аб ашчаднасьці ў фабрыкацыі, зруйнуецца напэўна.

Зямля таксама вымагае машынаў, сельска-гаспадарчых прыладаў, штучнага ўгнаеньня, веды, як родзіць зямля, дзеля чаго родзіць, і якога корму патрабуе кожная расьліна і збожжа.

Але зямля гэта толькі падстава сялянскае гаспадаркі. Галоўным даходным заняткам селяніна зьяўляецца разумная гадоўля жывёлы—быдла і сьвіней, што дае вялізарныя карысьці, якіх ня можа даць збожжа.

У Даніі селянін на 15 дзесяцінах засявае жытам $1^1/_2$—2 дзесяціны, рэшту поля засявае такім збожжам і кармавымі расьлінамі, якіх вымагае разумная гадоўля быдла і сьвіней.

Але такіх сялян, якія маюць па 15 дзесяцін у Даніі няшмат. Сярэдні гаспадар мае там 4-5 дзесяцінаў. Але ён трымае 8-10 кароў, прадае штогоду болей дзесятка адкормленых 9-ць месячных сьвіней. Ці так ёсьць у нас? Далёка не. Наш селянін на 5-10 дзесяцінах часта не даядае, ня мае чым аплаціць падаткаў, ня мае граша на лякарства і доктара для хворае жонкі і дзіцяці, а таксама на навуку сваіх дзяцей. А тымчасам у нашага селяніна зямля такая-ж, як у дацкага селяніна, таксама грэе сонца і таксама карова дае малако тады, калі яе добра і разумна карміць ды аб ёй дбаць.

Ці можна ў нас адразу ўвясьці такія-ж абставіны ў сялянскай гаспадарцы, якія мы бачым у Даніі. Не, адразу гэта стацца ня можа, бо нічога бяз працы і часу не адбываецца. Трэба доўга працаваць, вучыцца, і ісьці такімі-ж шляхамі да паправы свайго быту, якімі дайшлі да гэтага сяляне ў Даніі.

Перад усім трэба якнайхутчэй вучыцца і заводзіць новыя способы ўправы ральлі, памагчы ёй радзіць і ўзбагачваць таго, хто ўважліва, разумна і ўмела працуе на ёй.

Аднэю з найбольш шкодных і благіх нашых пагаворак, акія адтвараюць звычай і пагляд нашага сялянства на гаспадарку на ральлі, зьяўляецца: „нявучонымі пражылі і гаспадарылі і багатымі былі нашыя дзяды і бацькі, патрапім таксама пражыць і гаспадарыць так, як яны, і мы". Але ў гэтай пагаворцы ўсё нязгоднае з праўдай. Ніколі ня былі багатымі нашыя дзяды сяляне, праўда, часта было ў іх болей хлеба, бо было больш зямлі, якая лепш радзіла, ня была так вынішчана, а з другога боку патрэбаў у даўныя часы было вельмі мала. Кожны амаль селянін сам рабіў, што было яму патрэбнае ў гаспадарцы. Воз на дзеравяных осях, дзеравяная саха і барана, дармовае найчасьцей дрэва ў лесе і г. д. і г. д. Палілі замест газы лучыну, ня куплялі ані вопраткі ані ботаў, хадзілі ў тканым дома ды ў лапцёх. Цяпер ня тое: кожная сялянская сям'я мае шмат больш выдаткаў на свае патрэбы, гэтыя выдаткі растуць з кожным годам, а зямлі менш стала. Дзедавы загон падзялілі ўнукі, стала яна слабей радзіць, бо ўжо гною ў ёй мала, а ўгнаеньня няма. Дык гібее сялянская сям'я, і селянін наракае на долю і жыцьцё. Ніхто-ж яму так не паможа, як ён сам, бо такі ўжо парадак на сьвеце, дый пагаворка кажа: „Працуй нябожа— а Бог дапаможа".

Дык вось да гэтай працы заклікаем. Але праца павінна быць разумнай, кожны селянін павінен добра думаць, як найлепш абрабіць зямлю, што пасеяць і што гадаваць, ды як усё гэта рабіць. Дзяды і бацькі нашыя былі няпісьменныя людзі, кніжак аб гаспадарцы ня чыталі і нас не навучылі. А вось відзім, што дало сялянам у Даніі чытаньне кніжак і навука аб гаспадарцы.

Але калі кожны селянін будзе думаць толькі сам паасобку, калі ня злучыцца з суседзямі і разам з імі не падумае аб тым, як паправіць свой лёс, мала ён здолее зрабіць.

На ўсім сьвеце сяляне зразумелі, што сіла ў грамадзе, ў лучнасьці і еднасьці. Яны пазакладалі сельска-гаспадарчыя арганізацыі і ўжо цераз іх, пры помачы гэтых арганізацыяў ды ўраду навыпісвалі сабе машынаў, кніжак, гнаёў, добрага насеньня і добрае жывёлы. Толькі зарганізаваўшыся ў сельска-гаспадарчыя арганізацыі, патрапілі яны стаць моцна на ногі, навучыцца і збагацець.

Вось і для нас, беларускіх сялян, гэтая-ж дарога да палепшаньня быту. Трэба закладаць сельска-гаспадарчыя арганізацыі, якія ў нас завуцца з польскага „рольнічымі кулкамі", хадзіць на лекцыі інструктароў, што да такое арганізацыі будуць прыяжджаць, слухаць іх радаў, як трэба гаспадарыць, чытаць там кніжкі і г. д. Такі гаспадарчы гурток прынясе большую карысьць і трэба іх засноўваць, каб пазбыцца нашага гора і бяды. Як гэта рабіць і якая карысьць ад гаспадарчых гурткоў, раскажу ў наступным нумары.

*Стары селянін.*

---

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Работы на пасецы ў красавіку і ў траўні.

З прычыны значнага апазьненьня сёлетняе вясны, бо амаль што ўвесь красавік пчолкі сядзелі ў вульлёх і пчаляр дзеля холаду ня мог рабіць таго, што трэ' было-б яму рабіць у тым выпадку, каб красавік быў натуральным, цёплым вясновым месяцам; я лічу, што і цяпер яшчэ ёсьць час успамянуць аб красавіковых работах па пасецы. Можа ўжо хто з паважаных пчаляроў і выпаўніў тую работу, што да гэтага, аднак-жа, сумляваюся, але калі і выпаўніў, то я думаю, што яшчэ ёсьць час, убачыўшы некаторыя ў ёй недарэчнасьці паправіць, так як гэта належыцца. А работы красавіковая на пасецы абыймаюць сабою выключна стараньні пчаляра аб тым, каб давясьці свае пчолкі да якнайбольшай сілы, так каб да часу багатага мёдабраньня мець у вульлёх якнайбольшы запас маладых пчолак.

Усё гэта станецца тады, калі мы пчолам запэўнім дастатак: 1) цяпла, 2) корму, 3) вады, 4) чарачак для чарвякоў і 5) калі мы здолеем пабудзіць матку да якнайбольшага чарвеньня.

Аб цяпле прыходзіцца сказаць, што яно зьяўляецца неабходным для пчолак, калі мы хочам, каб яны нармальна разьвіваліся, бо чым цяплей будзе ў вульлі, тым большую плошчу рамак пчолы могуць абагрэць, а матка ў цяпле якнайніжэй можа апусьціцца для пакладкі яечак.

Дзеля гэтага, каб не марнаваць цяпла і ня выпускаць яго бяз прычыны з вульля, забясьпечваем яго тым, што затыкаем у вульлі ўсе шчылінкі, а самае гнязд‌о якнайцяплей акрываем, пры гэтым трэба разумець, што ляток павінен астацца дзеля прадухі і дзеля вылету пчол на двор, пры тым, аднак-жа, ляткі трошкі сьціскаем, асабліва на-нач і ў халодныя дні, каб гэтая прадуха зашмат холаду не навяла ў вулей; сьціскаем ляткі так-жа і ў тым выпадку, калі западозрым рабунак у вульлі.

Самае гнязд‌о трэба толькі разьбіраць у канечным выпадку; найлепей, калі мы будзем варушыць гнязд‌о якнайменш, бо гэтае варушэньне, разьбіраньне гнязда маець вялікі ўплыў і на самае чарвеньне маткі, дзеля таго, што яна ў часе гэтае апэрацыі моцна пералякаецца і на даўжэйшы час перастанець чарвіць. На дно вульля кладзём адумысную ўкладку, якая і цяпло пчолкам забясьпечваець і памагаець нам ачышчаць вулей ад сьмецьця, бо-ж мы, выймаючы ўкладку, выймаем разам з ёю ўсё сьмецьцё. Укладку гэтую

выймаем з вульля толькі тады, калі ў паветры ўстановіцца тэмпэратура ня меншая, як на 15°C, тое самае робім і з усім акрыцьцём гнязда.

Збольшыць цяплыню ў вульлі можна нават і пры помачы зьменшаньня гнязда. З гэтаю мэтаю выймаем з сярэдзіны гнязда тыя рамкі, якія маюць на сабе плесьню, альбо тыя, ў якіх ёсьць сцукрованы мёд, які на корм пчолкам не надаецца, дзеля таго, што пчолкі сваімі хабаткамі ня могуць яго ссаць. Гэтыя рамкі, калі нам спатрэбіцца, можам уставіць у вулей, аж у палове траўня, як ужо станець зусім цёпла і ад гэтай цяплыні мёд можа растапіцца. Пры зьмяншэньні гнязда звычайна выймаем са дзьве рамкі, не чапаючы ніколі рамак з чарвою.

Слабым вульлём забіраем рамкі зусім залітыя мёдам, у тым выпадку, калі пчолкі гэтых рамак зусім не асядаюць і ня могуць іх абагрэць сабою, а, аднак-жа, каб вульлю не забракла ежы, на тое месца можам даць ім сыты.

Аб корме трэба прыпомніць, што ён зьяўляецца ўсёю падставаю якнайхутчэйшага разьвіцьця сілы, колькасьці і якасьці пчолак. А дзеля гэтага пчаляр заўсёды павінен памятаваць аб ім і дбаць, каб вясною яго было для пчол колькі трэба. Бо няма ніякага сумліву, што вясною найболей з голаду адміраець больш пчолак, чымсьці ўзімку. Часам з зімы ўсе вульлі будуць цэлыя і здаровыя, але вясною, калі ўжо і першыя краскі зьявяцца, ні з сяго, ні з таго пчолкі ўміраюць. А гэта, галоўным чынам, здараецца ад нястачы мёду.

Непрактычны пчаляр, угледзіўшы на палёх першыя вясновыя краскі, даець спакой і не клапоціцца болей аб корме для пчолак, думаючы, што гэныя краскі ўжо поўнасьцю забясьпечваюць пчолкам ежу. Тымчасам, зусім надварот. У вясновых красках знаходзіцца заўсёды больш пылу, з якога пчолкі вырабляюць пяргу, але нэктару там зусім мала. А трэба ведаць тое, што вясною пчолкі, множачыся, надта шмат патрабуюць ежы для сябе і для маладых чарвячкоў, якіх з кожным днём прыбываець усё больш і больш. Старыя пчолкі з усіх сіл стараюцца выгадаваць і ахаваць чарву, лецячы шпарка ў поле і зьбіраючы для яе пяргу. Але самай пяргі для гадаваньня маладых пчолак не стае, да яе яшчэ трэба дамяшаць мёду, каб з гэтага зрабіўся здаровы корм. І дзеля гэтага пчаляр павінен рупіцца, каб гэтага мёду, якога пчолам вясною няма дзе ўзяць, было ў іх, аднак-жа, колькі трэба. Бо ў кожным выпадку, калі ў вульлі ёсьць нястача мёду, то матка чэрвіць зусім слаба, а з гэтага і слабее вулей. Як у вулей заглянець ужо голад, — матка зусім перастаець чарвіць, а тыя пчолы, якія застаюцца і якія ратуюцца перад сьмерцяй, пачынаюць жывіцца і ссаць свае-жа чарвячкі. Калі і гэтага ня станець, пчолкі альбо ўміраюць, альбо вылятаюць з вульля роем і садзяцца дзе-небудзь, чакаючы сьмерці. Каб гэткаму галоднаму рою даць рамку з незапячатаванаю чарвою, дык галодныя пчолы зьелі-б усю чарву, пачаўшы ад наймалодшае.

*Пчаляр.*

(Працяг будзе).

---

**Чытайце, выпісвайце і пашырайце „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ“.**

## Сёстрам вогнішча.

(На памятку прысягі дзявочых скаўцкіх дружын „Сёстраў вогнішча“ 27.III.1928 г.)

Скауткі, сёстры дарагія,
прыклад добры вы далі,
вы пачаткі залатыя
ў жыцьцё моладзі ўнясьлі.
Вы агонь ўжо распалілі
ў мляўкіх сілах у дзяўчат;
вы ім кліч апавясьцілі:
к новай долі йсьці праз гарт.
Ваша вогнішча сьвятое
запылае хай агнём,
да яго ўсё маладое
хай гарнецца ноччу й днём.
Хай яно так разагрэе
цела й дух усіх дзяўчат,
каб ня быў ніхто, хто млее,
каму страшны злыдзень — кат.
Сёстры вогнішча, глядзеце,
будзьце вогнішчам сьвятым,
добрым прыкладам сьвяцеце
апяжэлым і слабым.
Будзьце вогнішчам вы хатнім,
дзе шчасьліва ў грамадзе
жылі-б ўсе ў каханьні братнім,
месца дзе няма бядзе.
Будзьце вогнішчам, якое,
разагрэе крыўску кроў
і папаліць ўсё благое,
збудзіць гонар і любоў.
Будзьце вогнішчам, якое
спаліць злую долю ў нас
і асьвеціць дарагое
слова: „Вольным быць ўжо час!“

*Казлоўшчык.*

---

## З жыцьця Наваградчыны.

Коопэратыўны рух у Наваградзкім ваяводзтве за апошнія часы значна пашырыўся.

Асабліва зьвятае на сябе ўнагу павялічэньне колькасьці коопэратыўных малачарняў. Гэтак у Лідзкім павеце ў бягучым годзе паўстае 22 новых коопэратыўных малачарняў (дагэтуль было 8); у Стаўпецкім павеце паўстае 11 (дагэтуль была 1) у Слонімскім — 9 (дагэтуль было 8), у Валожынскім — 8 (дагэтуль было 6), у Баранавіцкім — 11 (было 2), у Несьвіжскім — 7 (было 2) і у Наваградзкім павеце — 14 (было 4).

Гэткае вялікае пашырэньне коопэратыўных малачарняў зьўляецца найлепшым доказам тэй карысьці, якую з гэных малачарняў маюць сябры яе — у большасьці дробныя земляробы.

І сапраўды карысьць з гэных малачарняў вялікая. Насам перш інструктары навучаюць сялян, як гадаваць жывёлу, як і чым карміць яе, каб яна больш і лепшага давала малака. Па-другое малачарня мае магчымасьць куды даражэй

плаціць сялянам за малако, дзеля таго, што вырабляючы з малака масла і то добрага гатунку—знаходзіць лёгкі збыт яго па добрай цане. Нажаль коопэрацыйны рух гэты на шляху свайго разьвіцьця спатыкае і перашкоды. Найбольшай перашкодай зьяўляецца нясьведамасьць і цемната нашага сялянства, каторае ня ўсюды яшчэ разумее, якую вялізарпую карысьць у гаспадарцы і даход дае яму коопэрацыйная малачарня і доўга яшчэ надумваецца і чухаецца, пакуль зрашыць урэшце прыступіць да арганізацыі яе. З другога боку на гэнай цемнаце нашага сялянства йграюць мясцовыя гандляры малаком і маслам, каторыя зацікаўлены ў тым, каб малачарні ня было, бо тады сяляне мусяць гэныя тавары прадаваць ім па тэй цане, якую яны ўздумаюць ім даць, зарабляючы пасьля на купленых ад сялян малочных прадуктах вялікія грошы. Вось гэныя гандляры кідаюцца на ўсялякія спосабы, каб не дапусьціць да арганізацыі малачарняў.

Вельмі часта і розныя мясцовыя палітыканы грамадаўскага альбо камуністычнага напрамку бунтуюць сялян, кажучы, што гэта выдумка польскіх паноў.

Сяляне — ня верце гэтым людзям. Адмаўляць Вас ад арганізацыі коопэратыўных установаў могуць толькі альбо людзі цёмныя, альбо ворагі вашыя, падкупленыя гандлярамі. Валеце ўсей масай у малочныя і ўсялякія іншыя коопэратывы. Бо коопэратыва, гэта ня прыватная ўстанова, а грамадзкая і зьяўляецца ўласнасьцю ўсіх пайшчыкаў яе і будзе альбо польскай, альбо беларускай, панскай, альбо сялянскай, залежна ад таго, хто зьяўляецца сябрамі яе. А каго-ж болей у нашых вёсках, як не сялян беларусаў?

Мы ўжо ня раз пісалі аб вялікай патрэбе і карысьці для сялянства пашырэньня коопэрацыі і яшчэ ня раз вернемся да гэтага, а тым-часам вельмі былі-б удзячны, каб хто небудзь з нашых чытачоў, які належыць да коопэратываў, напісаў нам, якую карысьць маюць сяляне з коопэратыўных малачарняў.

---

# Хроніка.

### Чугунка Слонім—Наваградак—Маладэчна.

Прадстаўнік фірмы Савіч, якая эксплёатуе Налібоцкую Пушчу, заявіў наваградзкаму ваяводзе Бэчковічу, што фірма згаджаецца даць 15 мільёнаў злотых на будову чугункі ад Слоніма да Наваградка цераз Маладэчна. Уся будова мае каштаваць 49 мільёнаў злотых.

### Справа б. пасла Базыля Рагулі ў Апэляцыйным Судзе ў Вільні.

24 красавіка разглядалася ў Віленскім Апэляцыйным Судзе справа б. пасла і выбранага ў Сэнат Базыля Рагулі, асуджанага Акружным Судом у Наваградку на 2 гады турмы. Баранілі адвакаты Абрамовіч і Чэрніхаў. Абарона прадставіла ў Суд брашуру, выданую ў Савецкай Расеі, у якой востра выступаюць камуністыя проціў Рагулі, як прадстаўніка дробна-мяшчанскай буржуазіі на доказ таго, што абвінавачаны Рагуля ня мог імкнуцца да адарваньня беларускіх земляў ад Польшчы і прылучэньня іх да Савецкай Беларусі. Апрача таго абарона прасіла вызваць у Суд за сьведкаў начальніка аддзелу бясьпечнасьці ў Віленскім ваяводзтве Кіртікліса і ўрадоўца таго-ж аддзелу Ракоўскага, якія маюць сьцьвярдзіць варожыя адносіны Саветаў да Рагулі.

Суд прыняў прапазыцыі абароны і справу адлажыў.

### Заявы аб стратах, панесеных у часе окупацыі Вільні Літоўцамі.

Віленскае Староства і Магістрат прымаюць заявы аб панесеных насельніцтвам м. Вільні стратах, выкліканых літоўскай окупацыяй у 1920 г., а так сама аб стратах, прычыненых нападамі шаўлісаў (літоўскіх стральцоў). Заявы гэтыя маюць сувязь з адбыўшайся польска-літоўскай конфэрэнцыяй у Крулеўцы.

### Электроўні ў Ляхавічах і Гарадышчы.

У Ляхавічах і Гарадышчы, Баранавіцкага павету маюць будавацца электроўні, будаваныя пры дапамозе павятовага Сойміку. Інжынер Тэраевіч ужо апрацоўвае пляны будовы.

### Авёс на насеньне для сялян Слонімшчыны.

Павятовы Соймік у Слоніме, маючы на ўвазе дапамогу сялянству ў трудную сеўную пару, закупіў 4380 пудоў добрага насеннага аўса. які прадаецца ў Слоніме па 9 злотых за пуд. На закуп гэтага насеньня валасныя пазычковыя касы даюць пазыкі.

### Адчыненьне вочнае клінікі пры віленскім унівэрсытэце.

У нядзелю 22 красавіка адбылося ўрачыстае адчыненьне новае вочнае клінікі на Антокалі ў Вільні пры Віленскім унівэрсытэце. Клініка паўстала дзякуючы стараньням праф. Шыманскага, абранага сэнатарам і старшынёю Сэнату. На ўрачыстасьць зьехаліся прадстаўнікі другіх унівэрсытэтаў, ураду і заграгічныя госьці. Клініка пабудавана дзякуючы матэр'яльнай дапамозе маршалка Пілсудскага, які ўвесь час апякуецца віленскім унівэрсытэтам.

### Злучэньне К. П. З. Б. з К. П. З. У.

Як падаюць газэты, у Гданску на конфэрэнцыі пастаноўлена злучыць дзьве нелегальныя камуністычныя арганізацыі: Камуністычную Партыю Заходняе Беларусі і Камуністычную Партыю Заходняе Украіны. Абедзьве партыі вядуць камуністычную работу ў границах Польшчы. Злучэньне наступіла дзеля больш энэргічнае работы.

### Страйк работнікаў у Нова-Вілейцы.

25 красавіка пакінула працу пры будове вайсковых дамоў 200 работнікаў, якія жадаюць павышэньня платы.

---

# Апошнія навіны.

На Балканах, дзе заўсёды было неспакойна ў палітыцы, адкуль началася благой памяці вайна 1914

г., пачаліся землятрусы, якія нішчаць будоўлі, вёскі і месты, пакідаючы бяз даху сотні тысяч людзей.

Гэтак **у Баўгарыі** паўтарыўся ізноў землятрус, які ўночы з 22 на 23 сакавіка зьнішчыў цалком увесь горад Філіпполь. Вялікае места, дзе пражывала 60 тысячаў чалавек ня мае ніводнага цэлага дому, асталіся адны руіны. Пазбаўленым даху і маемасьці ахвярам катастрофы прысылаюць помач з усяго сьвету.

Такое-ж самае няшчасьце спаткала суседнюю з Баўгарыяй дзяржаву **Грэцыю**. Там зьнішчаны землятрусам месты Карынф і Аргос і ваколіцы. Больш чымся палова дамоў развалена. Ахвяраў людзкіх ня шмат, бо зямля сьпярша дала слабыя ускалыхі, а пасьля толькі, цераз 45 мінут, калі ўсё насяленьне пакінула дамы і выбегла за места, ізноў здарыліся вельмі сільныя ўскалыхі, ад якіх парапспадаліся ўсе большыя дамы. Няма ніводнага дому ўва ўсім месьце, дзе-б можна было жыць. Пад голым небам асталося каля 70.000 чалавек.

Ня меней страшны землятрус здарыўся у **Паўднёвай Амэрыцы**, дзе адно мястэчка прапала зусім. Таксама адчулі землятрус ў Бразыліі і ў Італіі.

**Нямеччына** гатовіцца да выбараў у парлямант, якія маюць адбыцца ў траўні. — На судзе ў Штэціне процiў г. зв. Чорнай Рэйхсвэры (спэцыяльных вайсковых арганізацыяў) выявілася тое, што падчас плебісцыту ў Верхняй Сілезіі, калі насяленьне галасавала ў справе падзелу гэтага багатага ў вугаль і жалеза краю паміж Нямеччынай і Польшчай, нямецкія баявыя арганізацыі мардавалі сваіх праціўнікаў. Мардэрствы гэтыя даконваліся скрыта пры помачы атруты, гранатаў і бомбаў. — Нядаўна Нямеччыну адведаў ангельскі міністар лёрд Біркэнгэд, дзе адбыў конфэрэнцыю з міністрам замежных справаў Штрэзэманам. Як падаюць газэты, лёрд Біркэнгэд абгаварываў у Бэрліне справу адносінаў да Савецкае Расеі і ўтварэньня паразуменьня Англія-Францыя-Нямеччына, якое мела-б прычыніцца да адналітае палітыкі ў адносінах да бальшавікоў і да эканамічнага аздараўленьня Эўропы.

Бальшавікі ў **С. С. С. Р.** сільна занепакоіліся гэтай падарожай ангельскага міністра, бо дагэтуль Нямеччына заўсёды падтрымлівала Савецкую Расею. У зьвязку з магчымай пераменай адносінаў Эўропы да бальшавікоў, якія ў працягу ўсяго свайго панаваньня ў кожным краі падтрымліваюць і аплачваюць камуністычны рух, што ўжо ня раз сьцьверджана дакумэнтамі, у Савецкай Расеі бальшавікі вядуць прапаганду процiў Англіі і гавораць аб небясьпецы вайны, якая ім грозіць. Дзеля гэтага сільна зброяцца, а ў буджэце на 1928 г. прызначылі на войска 869 мільёнаў рублёў, што раўняецца 4000 мільёнаў злотых. Такую вялізарную суму грошай сьцягнуць бальшавікі ад сваіх працоўных сялян, бо работнікі мала плацяць падаткаў, а капіталістых ў Расеі цяпер няма, апрача камісараў, якія нічога ня плацяць. Прыватнага гандлю ў бальшавіцкай Расеі таксама няма і налогі плацяць адны сяляне. Гэтых налогаў цяпер выпадае на гаспадарку больш, чымся перад вайной, за цара. Адных акцызных падаткаў (з водкі, з цукру, з солі, з табакі) бальшавікі сьцягваюць 1415 мільёнаў рублёў. Гэтым аб'ясьняецца тое, што цукер і другія фабрычныя вырабы такія дарагія ў Расеі. Праўда, там таннае збожжа, але гэта якраз няшчасьце для вёскі і вядзе да абядненьня сялянства. Адабраўшы ад абшарнікаў зямлю, бальшавікі далі яе на карыстаньне сялянам, не на ўласнасьць, бо ўласнасьці на зямлю камуністыя не прызнаюць. Ведама, што ня ўсе сяляне аднолькава дбалыя і працавітыя. Многія не хацелі працаваць на зямлі, якую бралі пад управу больш працавітыя. Цяпер бальшавікі ад гэтых багацейшых сялян адбіраюць зямлю.

---

# Аб усім патроху.

### Колькі ёсьць моваў на сьвеце.

Статыстыка, якую правялі ангельскія вучоныя выказала, што гутарных моваў на зямной кулі ёсьць 2796. З гэтага ліку ёсьць 860 гэткіх моваў, якімі гаворыць большая колькасьць чалавецтва. З гэтых вялікіх моваў прыпадаець на еўропу 48, на Азію 153, на Афрыку 118, на Амэрыку 424, на Аўстралію 117.

### У якім месьце найбольш жыдоў.

Найбольш жыдоў ёсьць у Нью-Іорку, найвялікшым месьце Паўночнае Амэрыкі. Жывець іх там 1 мільён 728 тысячаў чалавек. У ніводным іншым месьце сьвету няма гэтулькі сыноў Ізраіля, як у Нью-Іорку.

Да гэтага, гэта пераважна багатыя жыды, бо займаюцца гандлем і банковымі інтарэсамі.

---

# СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

### Дрот непатрэбны.

*Судзьдзя*: Ці прызнаеце сябе вінаватым у тым, што пакралі дрот з тэлеграфных стаўбоў?

*Абвінав.*: Не, пане судзьдзя, я ня краў.

*Судзьдзя:* Ды як-жа ня краў? Дрот знайшлі у вас, а сьведкі нават бачылі, як вы яго рэзалі і здымалі?

*Абвінав.*: Гэта дык праўда. Але прачытаўшы ў газэтах, што цяперака тэлеграфуюць ужо бяз дроту, я падумаў што ён непатрэбны. Ну, дык і зрэзаў сабе кавалак...

### У „бацюшкі".

Так мяне мой зьбіў, што ледзь дабрыла да вашае міласьці...

— Какім-же это образом? пытае „бацюшка".

— Не абразом, а кійком, каб яго ліха, — плача кабета.

---

Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Уміastoўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3